Беларуская

# КРЫНІЦА

Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта

Штомесячнае выданьне | Выходзіць з кастрычніка 1917 г. Аднаўлена ў 1991 г. | № 2 (775). САКАВІК 1992 г. | Кошт 60 кап.

## 25 сакавіка — Дзень Незалежнасьці

*Ён ідзе —*
*Вялікі Сакавік!*
*Ідзе...*
*й пад ногі рунь*
*яму кладзецца, таюць*
*сьнягі, на паплавох*
*зяленіцца трава...*

*Радзіма!*
*Беларусь!*
*Каханая, сьвятая!*
*Багаславі нас жыць*
*і веру захаваць!*

Натальля АРСЕНЬНЕВА.



З лютага ў Доме літаратара адбылася сустрэча прадстаўнікоў прэсы і творчай інтэлігенцыі з гасьцямі з беларускага замежжа, якія расказалі пра жыцьцё беларусаў у Канадзе, пра іхнюю грамадзкую дзейнасьць, пра справы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, адказалі на шматлікія пытаньні прысутных.

НА ЗДЫМКУ: госьці з беларускага замежжа ў час сустрэчы ў Доме літаратара (інфармацыю глядзі на 3-й стар.).

Фота У. ПАНАДЫ.

# ДЗЬВЕ ТЭЗЫ АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

Нацыянальная дэмакратыя ці «нацдэмаўшчына» — гэта тэрмін, які ўзьнік на Беларусі ў 20-я гады і быў на доўгі час зьвязаны з шматлікімі справамі аб «ворагах народу». У «нацдэмаўшчыне» тады абвінавачваліся многія беларускія навукоўцы, пісьменнікі, дзеячы культуры, дзяржаўныя дзеячы і шматлікія іншыя грамадзяне. Пры гэтым пад тэрмін «нацдэм» падпадалі і былыя дзеячы Беларускай сацыялістычнагй грамады (БСГ), і хрысьціянскія дэмакраты, і беспартыйныя, і нават камуністы. Сярод іх былі такія вядомыя людзі, як акадэмік Усевалад Ігнатоўскі, доктар гістарычных навук Мітрафан Доўнар-Запольскі, мовазнаўца Язэп Лёсік, гісторык, літаратуразнаўца і палітычны дзеяч Вацлаў Ластоўскі, пісьменнік Цішка Гартны і многія іншыя.

Самае дзіўнае, што хоць ярлык «нацдэм» прышпільвалі да зусім розных людзей — ніводзін зь іх не належаў да арганізацыі, якая б мела адпаведную назву. Была сацыял-дэмакратыя, хрысьціянская дэмакратыя, быў нават нацыянал-сацыялізм (у Заходняй Беларусі) — а нацыянальнай дэмакратыі як філасофскай ці палітычнай плыні ня было! Толькі адна нітачка вядзе да гістарычнага абгрунтаваньня такое назвы. Маецца на ўвазе партыя «Нацыянальна-дэмакратычны саюз», якія існавала ў Польшчы з 1897 па 1917 год. Магчыма гэты тэрмін нейкім чынам і паўплываў, каб абвінавачваць беларусаў у «нацдэмаўшчыне» ў 30-я гады, у час сталінскага тэрору.

Толькі цяпер, на пачатку 90-х гадоў, было вырашана групай першапраходцаў стварыць сапраўдную, нацыянальна-дэмакратычную арганізацыю. 23—24 чэрвеня 1990 году ў Менску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі (НДПБ). На гэтай канферэнцыі ўпершыню ў гісторыі Беларусі была заснавана партыя, якая аб'ядноўвае тых, хто дбае пра лёс шматпакутнага беларускага народу, змагаецца на нацыянальнае адраджэньне, вяртаньне беларусам гістарычнае памяці, роднае мовы і рэлігіі.

Сярод існуючых дэмакратычных партыяў НДПБ займае асаблівае становішча. У сувязі з гэтым хачу спыніцца на дзьвюх істотных рысах ідэялогіі нашае партыі.

Па-першае — НДПБ — гэта нацыянальная дэмакратычная партыя. Што гэта азначае? А вось што. У дзяржавах, якія ніколі не былі ў складзе імперыі, ці даўно пазбавіліся імперскага ўціску, пытаньня аб такіх стуктурах, як НДПБ, не існуе. Большасьць заходніх дзяржаў зьяўляюцца монанацыянальнымі і праблемы ратунку карэннае нацыі там няма. У такіх жа дзяржавах, як Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ёсьць аўтахтоннае індзейскае насельніцтва і шматлікая эміграцыя, створаны належныя ўмовы для зьберажэньня іхніх культур. Па-за межамі Беларусі жыве шмат беларусаў, у т. л. на Віленшчыне і ў Беласточчыне, дзе яны зьяўляюцца карэннымі жыхарамі гэтых зямель і насяляюць іх кампактна. Асіміляцыйныя імкненьні ўладаў, пэўны нацыянальны ўціск прымушаюць беларусаў гуртавацца для абароны сваёй мовы, культуры, традыцый, чалавечай годнасьці. На Беласточчыне, напрыклад, створана Беларускае дэмакратычнае аб'яднаньне (БДА), згуртоўваюцца і беларусы Віленшчыны. Ня лепшае становішча беларусаў і ў самой Беларусі (былой савецкай), дзе мэтанакіраваная русіфікатарская палітыка Масквы зруйнавала мову, культуру, душы людзей, агульначалавечую мараль.

Зьяўленьне на палітычнай карце нашага Краю Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі абумоўлена было ў пачатковым перыядзе адраджэнскай дзейнасьцю Беларускага Народнага Фронту, а затым імкненьнем асобных, адданых беларускай справе, людзей да стварэньня больш акрэсьленай, чым у БНФ, структуры для змаганьня за ратунак беларускае нацыі.

Нацыянальны нігілізм, прарасейскія настроі значнай часткі насельніцтва, масавы манкуртызм — вось што характарызуе сучаснага пашпартнага беларуса. І ня дзіва, што ў беларускіх партыях дэмакратычнае арыентацыі, якія ўтварыліся сьледам за БНФ, а потым згуртаваліся ў Аб'яднаную дэмакратычную партыю Беларусі (АДПБ), нацыянальная ідэя стаіць на апошнім месцы. Іх галоўная тэза — сьцьвярджэньте таго, што перш за ўсё людзям патрэбны сацыяльныя зьмены і паляпшэньне эканамічнага становішча. І толькі потым, калі будзе пабудавана новая дэмакратычная беларуская

(Заканчэньне на 2 стар.).

РЭПАРТАЖ З МЕСЦАЎ ПАДЗЕЙ

# Дзень учарашні, дзень заўтрашні

Яшчэ напярэдадні 23 лютага «совет движения за демократию, социальный прогресс и справедливость» разьляпіў на сьценах дамоў Менска свае ўлёткі-заклікі. У іх ён заклікаў менчукоў да мітынгу, абвяшчаліся ўзнёслыя лозунгі: «Да — единению народов страны советов!... Да — власти трудового народа!» і інш.

І вось 23 лютага ў гарадзкім дзіцячым парку загучалі галасы не дзяцей, а іхніх дзядуляў і бабуляў. Тут калыхаліся чырвоныя сьцягі былога СССР і чырвона-зялёныя — былой БССР. Ну, вядома, што і тыя, хто стаяў пад імі, былі былыя — людзі старэчага ўзросту. Але ўзрост не быў перашкодаю для палымяных прамоў. Якіх толькі заклікаў тут не было: «К ответу предателей Ельцина, Кравчука, Шушкевича», «Созвать съезд народных депутатов СССР», «Не допустим расчленения отечества», сыпаліся праклёны ў адрас дэмакратаў, БНФ і іншых «здраднікаў». Прамоўцы аж захліпаліся ад эмоцый. Многія трымалі ў руках «Славянский вестник», «Мы и время», «Политический собеседник» і іншыя падобныя ім лісткі.

Побач жа ішоў гандаль газэтай і праграмай партыі Жырыноўскага. Стаяла і кучка людзей пад чорна-жоўта-белым сьцягам. Яны прапаноўвалі свой тавар — манархічную брашурку праз саюз рускага народа, выдадзеную Ваенным выдавецтвам у Маскве.

Нейкі дзіўны быў гэты мітынг. Быццам здані мінулага сабраліся на яго, тут аб'ядналіся чорная, чырвоная і карычневая сотні. Здавалася б, што магло аб'ядноўваць іх? А знайшлося ж! Нянавісьць да дэмакратычных пераўтварэньняў, да незалежнасьці народаў, ідэя «единой и неделимой», сьляпы шавінізм. Накрычаўшыся ўволю, нешматлікі натоўп стаў разыходзіцца па хатах, каб папалуднаваць нішчымніцай сацыялістычнага ладу жыцьця.

На гадзіну пазьней пачаўся мітынг дэмакратычных сіл на пляцы Незалежнасьці. Тут было крыху болей народу, але не сказаць, каб вельмі шмат, бо не кожны адважваўся вылазіць з хаты ў надзвычай паскуднае надвор'е. Мітынг быў скліканы для падтрымкі рэферэндуму аб адстаўцы цяперашняга парламенту (выбранага паводле старой схемы Вярхоўнага Савету БССР) і выбарах на дэмакратычных асновах вышэйшага органу ўлады Рэспублікі Беларусь.

Член ініцыятыўнай групы па правядзеньню рэферэндуму Юры Хадыка, адкрываючы мітынг, сказаў, што сёньняшняя ўлада паводле формы дэмакратычная, а па сутнасьці засталася тою самаю, зарыентаванай на камуністычныя шаблоны, у многіх выпадках па-ранейшаму належыць да ўчарашняй наменклатуры. Раней гэтыя людзі валодалі ўладай, а цяпер валодаюць нашым жыцьцём праз эканоміку. Ідзе разарэньне народа праз павышэньне цэн...

Пра неабходнасьць правядзеньня рэферэндуму гаварылі народныя дэпутаты Беларусі Лявон Баршчэўскі, Зянон Пазьняк і многія іншыя ўдзельнікі мітынгу. Выступілі і вайскоўцы-беларусы — марак-падводнік, капітан другога рангу Някрасаў і падпалкоўнік Лебедзеў.

Дысанансам прагучала на мітынгу выступленьне афіцэра-адстаўніка, які намагаўся адстойваць вернасьць ваярскай прысязе быломy СССР і адзінства ўзброеных сіл. Слухаць яго не захацелі. Тады ён скіраваўся да помніка правадыру сусьветнага пралетарыяту, каб пакласьці яму кветкі і гэтым задэманстраваць сваю адданасьць ідэям сацыялізму. Спрабаваў выступіць і нейкі юнец-анархіст.

На мітынгу дэмакратычных сіл была прынята ўхвала аб правядзеньні рэферэндуму.

Кар. «Беларускае крыніцы».

# ДЗЬВЕ ТЭЗЫ АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДЭМАКРАТЫІ

*(Заканчэньне. Пачатак на 1-й стар.).*

дзяржава, яны «соизволят» прыступіцца да нацыянальных пытаньняў. А, між іншым, можа стацца так, што чакаючы, калі нам, беларусам, аб'яднаныя дэмакраты кінуць костку нацыянальнага адраджэньня, то адраджаць ужо будзе некага — беларуская нацыя можа скончыць сваё існаваньне.

Рэспубліка Беларусь — адзіная з былых савецкіх саюзных рэспублік, у якой амаль не гучыць дзяржаўная, беларуская мова. Рэспубліка Беларусь — адзіная дзяржава, парламент якой на сваіх сесіях карыстаецца расейскай мовай замест роднай.

У той час, калі і Прыбалтыка, і Закаўказьзе, і Украіна, і іншыя былыя рэспублікі СССР, і нават Расея рашуча ідуць у кірунку дэмакратыі, толькі Беларусь з халуйскай адданасьцю ўсё глядзіць на Маскву. Не выпадкова, што «нінаандрэеўскія» неабальшавікі знайшлі сабе прыстанішча не дзе-небудзь, а ў Менску. У нас вельмі яскрава праяўляецца наступны закон: сіла рэакцыйнасьці ўраду дзяржавы адваротна прапарцыянальная нацыянальнай сьвядомасьці народу, які насяляе гэтую краіну.

Таму мы, нацыянал-дэмакраты, глыбока перакананыя ў тым, што шлях да новага грамадзтва ляжыць праз нацыянальнае адраджэньне, праз выхаваньне сьвядомага беларуса, такога чалавека, які не саромеецца роднай мовы, а ганарыцца ёю, які ўслаўляе сваю гісторыю, ды зьберагае свае традыцыі. «Чыстыя» ж дэмакраты ня маюць нацыянальных каранёў, няма гістарычнай неабходнасьці ў іхняй місіі, яны для нас прышлыя.

Я неаднойчы пераконваўся ў тым, што ў кожнага беларуса, калі ён нават абрусеў і не валодае беларускай мовай, усё адно падсьвядома жыве пачуцьцё нацыянальнай годнасьці. Яго яшчэ ня зьнішчылі да канца. Трэба абудзіць гэтага беларуса, выгадаваць ягоную беларускасьць да такой ступені, каб ён адчуў сорам за тое, што гаворыць на чужой — расейскай ці польскай — мове, каб не даводзілася пераконваць яго аддаваць сваіх дзетак у беларускую школу ці садок. Сіла і карані Нацыянальна-дэмакратычнай партыі ў беларускім народзе, які нягледзячы на двухсотгадовае заняволеньне, існаваньне ва ўмовах акупацыі спачатку Расейскай імперыі, а потым бальшавіцкага генацыду, здолеў зьберагчы сваю мову і традыцыі, зьбярог свае песьні і паданьні. Я веру, што настане час, калі Беларусь стане незалежнаю дзяржаваю са сваёй мовай і гісторыяй, а стасункі паміж намі, беларусамі, расейцамі ды іншымі незалежнымі народамі былой савецкай імперыі будуць будавацца на прынцыпах роўнасьці і павагі.

Другой асаблівасьцю ідэялогіі, на якой грунтуецца дзейнасьць НДПБ, зьяўляюцца яе адмоўныя адносіны да «спрадвечных» мрояў чалавека аб камуністычным раі, адмоўныя адносіны да сацыялістычнага шляху разьвіцьця чалавецтва. Трэба аднак заначыць, што на пачатку нашых ідэялагічных пошукаў мы зьвярталіся да традыцый Беларускай сацыялістычнай грамады першых гадоў ХХ стагодзьдзя. Ідэі нацыянальнага адраджэньня ў варунках незалежнае Беларусі, выкладзеныя ў праграме Беларускае сацыялістычнае грамады Алесем Гаруном цалкам падтрымлівае Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі і яны пакладзены ў аснову нашае праграмы.

Аднак на гэтым падабенства з БСГ канчаецца. У дваццатыя гады ідэі сацыялізму, камунізму, філасофія Маркса і Леніна валодалі масамі. Але мінуў час, і жудасны эксперымент гвалтоўнай пабудовы марксісцка-ленінскага камунізму канчаецца. Усходняя Эўропа ўжо скінула камуністычнае ярмо. У былым Савецкім Саюзе, відаць, ня так хутка, але непазьбежна гэта настане. Народ адчуў на сваёй скуры сапраўдную сутнасьць ленінскіх лозунгаў. Людзі імкнуліся да агульнай роўнасьці і атрымалі самую жахлівую няроўнасьць, закамуфляваную пад «разьвіты сацыялізм», «обновленный социализм» і г. д. Праўды яны чуць не маглі, бо партыйная камуністычная мафія пільна сачыла за тым, каб словы праўды не даходзілі да людзей, улада не марудзіла з тым, каб заганяць іншадумцаў за краты турмаў і псіхіятрычных шпіталяў.

Але настаў іншы час, людзі сталі пазнаваць праўду аб сталінізме і ленінізме. І недалёкі той час, калі грамадзтва зразумее, што марксізм — гэта нішто іншае, як міф. А міфы і рэальне жыцьцё — розныя рэчы. Расейскі публіцыст А. Цыпко пісаў («Новый мир», № 4, 1990 г.), што «ніхто і ніколі ў гісторыі чалавецтва ня быў так заняволены міфамі, як наш народ у ХХ стагодзьдзі. Мы меркавалі, што зьвязалі свой лёс зь вялікай ісьцінай, а высьветлілася, што мы даверыліся інтэлектуальнай фантазіі... Мы меркавалі, што зьяўляемся першапраходцамі, вядзём за сабою астатняе чалавецтва ў царства свабоды... а высьветлілася — наш шлях быў шляхам у нікуды».

Час ужо адкрыта прызнацца, што мы памыляліся ўсе семдзесят чатыры гады пасьля кастрычніцкага перавароту, а двухсотгадовая эвалюцыя камуністычных ідэй, пачынаючы ад французскай рэвалюцыі, дала бясплённыя парасткі і прывяла іх да пагібелі.

Задача Нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі — вярнуць беларускаму народу спрадвечныя, тысячагодзьдзямі выпрацаваныя сацыяльныя ісьціны.

Мы лічым, што найбольш прыдатным для беларускага адраджэньня шляхам у сусьветную цывілізацыю зьяўляецца шлях дэмакратыі і гуманізму, шлях, якім ідуць многія краіны сьвету. Мы лічым, што ідэя сацыял-дэмакратыі састарэлая і непрыдатная як для Беларусі, так і для іншых рэспублік былога Савецкага Саюзу. Ідэёлагі Беларускае сацыял-дэмакратычнае грамады часта спасылаюцца на досьвед сацыял-дэмакратычных партый краін Заходняй Эўропы, якія займаюць вядучыя пазіцыі ў палітычным жыцьці сваіх дзяржаў (напрыклад, Федэратыўная Рэспубліка Германіі, Швецыя).

Гэткія спасылкі, як прыклад для былых рэспублік былога Савецкага Саюзу, у час агоніі камунізму бясcэнсоўныя. Заходняя сацыял-дэмакратыя існуе ў надзвычай разьвітых краінах і вядзе сваю палітыку за сацыяльны дабрабыт. Ажыцьцяўленьне сацыялізму ў нас было і можа быць толькі сталінскім. Усялякія спробы дэмакратызацыі гэтага сацыялізму непазьбежна скончацца крахам. Ён можа існаваць толькі ў таталітарнай сістэме, для чаго расейска-азіяцкая глеба была заўсёды самай спрыяльнай. Таму Нацыянальна-дэмакратычная партыя выступае за пабудову цывілізаванага, дэмакратычнага грамадзтва, эканамічныя стасункі і дзяржаўны лад у якім павінны грунтавацца не на міфічных «ізмах», а на аснове павагі да чалавека, як галоўнай каштоўнасьці, на свабодзе асобы і дэмакратычнай эканоміцы. Што тычыцца ідэй сацыяльнай абароненасьці, пра што быццам так рупяцца сацыял-дэмакраты, то ў нашай праграме яны займаюць ня меньш месца.

**Анатоль АСТАПЕНКА.**
**старшыня Вышняй Рады НДПБ.**

## Масква забараніла

11 сакавіка Фонд Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых планаваў правядзеньне мітынгу на пляцы Незалежнасьці ў Менску. Мэта яго — падтрымка палітыкі, якая праводзіцца Вярхоўным Саветам і ўрадам Беларусі і накіравана на стабілізацыю грамадзка-палітычнай і эканамічнай сітуацыі, а таксама на вырашэньне пытаньняў сацыяльнай абароны ваеннаслужачых.

Аднак кіраўніцтва Узброеных Сіл у Маскве нават у гэтым убачыла нейкую пагрозу і забараніла ваеннаслужачым удзельнічаць у мітынгу. Фонд вымушаны быў адмяніць мітынг. У «суверэннай» Беларусі, войскамі на тэрыторыі якой распараджаецца маршал з Масквы.

## Сустрэча зь нямецкімі сацыял-дэмакратамі

19 лютага адбылася сустрэча сяброў Управы Беларускае Хрысьціянска-Дэмакратычнае Злучнасьці з дэлегацыяй нямецкіх сацыял-дэмакратаў зямлі Брандэнбург, якую ўзначальваў спадар Штэфан Райхэ. Беларускія хрысьціянскія дэмакраты паінфармавалі гасьцей пра дзейнасьць сваёй партыі, яе гісторыю, пра асноўныя палажэньні праграмы БХДЗ, пра яе месца ў руху дэмакратычных сіл Беларусі.

Нямецкія сацыял-дэмакраты ў сваю чаргу расказалі, якая праца вядзецца імі ў зямлі Брандэнбург, узьяднанай цяпер у адзінай Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Кар. «Беларускае крыніцы».

# ДЗІЦЯТКА З АМБІЦЫЯМІ

Што такое ДСПС («Движение за демократию, социальный прогресс, и справедливость»), мы добра ведаем, ведаем, да чаго яно імкнецца. Але вось нядаўна зьявілася на сьвет, «ахрышчана» Мінюстам і атрымала рэгістрацыйнае пасьведчаньне яшчэ адна арганізацыя — ДДРБ («Движение за демократические реформы — Демократическая Беларусь»). Ужо зь пялёнак яна заявіла:

«ДДРБ выражает озабоченность активизацией национал-радикализма, белорусизацией методом принуждения. Национал-радикалы известны как защитники политики изоляционизма, враждебной рынку. Ими насаждается идея противостояния Беларуси «имперской» России, близкому беларусам русскому народу». І далей:

«ДДРБ считает, что национальное должно принадлежать сегодня культуре, а не государству (і як тут не прыгадаць Жырыноўскага і яго намеры вырашыць лёс былых рэспублік былога СССР: «Вся автономия — в рамках культуры — пожалуйста»)... Поддерживая развитие самобытной белорусской культуры, ДДРБ выступае за придание статуса государственного белорусскому и русскому языку, в соответствии со сложившейся языковой ситуацией, за свободный выбор гражданами языка обучения, за свободное бытование языков в государственной, производственной и других сферах жизни. Мы также поддерживаем всю ту культурно-просветительскую работу, которую ведут в республике национальные сообщества».

Што ж, вялікі дзякуй ДДРБ, што гэтае «движение» не адмаўляе нам у праве мець свае «национальное сообщество». Іншыя ж падобныя «движения» і гэтага не прадугледжваюць, для іх мы ўсяго толькі «западная ветвь великого русского народа».

І яшчэ адно. Ці не «праштудыявалі» стваральнікі ДДРБ сталінскую канстытуцыю БССР 1937 году і не «зъдзёрлі» зь яе сёе-тое. Напрыклад, пра дзяржаўныя мовы — беларускую і расейскую. Бо і там гэта было, але як было на справе — мы ведаем добра, аж занадта. І таму іхнія намеры вельмі ж відавочныя нам, беларусам. Што ж датычыць «имперской России», дык яе імперскі адломак побач з намі — у асобе «Движения за демократические реформы — Демократическая Беларусь».

Як бачым, «младенец» хоць толькі яшчэ нарадзіўся, але ўжо трымае ў руках пятлю для беларускага адраджэньня. Дзіцятка з амбіцыямі, і не малымі.

## *ДЭБЮТ У «БЕЛАРУСКАЙ КРЫНІЦЫ»*



**Алесь МАКРАЦОЎ**

**Алесь Макрацоў нарадзіўся ў вёсцы Паддуб'е Быхаўскага раёну ў 1956 годзе. У 1982 годзе скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, дзе атрымаў сьпецыяльнасьць інжынера-землеўпарадчыка. Жыве ў Менску.**

### Беларусь

*Жахлівае пачало*
*Няўмольна зь людзьмі*
*рабіцца...*
*Вяльможначыноўных жа зло*
*Прыгрэла ў сваёй сталіцы:*

*Партыйна глядзець здалёк,*
*Як беларуская нацыя*
*Адчайна ратуе свой бок*
*Абпалены радыяцыяй.*

*Каб не глынуў нас нябыт,*
*Не адыйсьці нам у вечнасьць,*
*Трэба самім здабыць*
*Поўную незалежнасьць.*

*Выкаціць угару*
*Сонца свабоднае нацыі...*
*Хопіць цярпець, Беларусь,*
*Чужацкую акупацыю!*

### Гусі

*«Нет оснований для страха,*
*Ничто не грозит Белоруссии»,*
*Пасьля Чарнобыля гагалі*
*Вяльможначыноўныя гусі.*

### Пачуцьцё

*Мне зразумела, чаму*
*Зьмяняюцца нашыя людзі —*
*Асядае ў мазгах каламуць*
*Кастрычніцкай рэвалюцыі.*

*Шырыцца пачуцьцё:*
*Вернем спрадвечныя рысы —*
*І ў нас адстаіцца жыцьцё*
*Да скандынаўскай*
*празрыстасьці.*

### Сенцы

*Беларусь для імперыі*
*была заўжды сенцамі*
*з прыдатным для ног*
*і пакорлівым дыванком,*
*аб які тут стагодзьдзямі*
*боты свае*
*выцірала*
*імперыя...*

Чэрвень 1991 г.

# За новы і дзейны парламент

«Ці лічыце Вы неабходным правядзеньне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнае ўлады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым, датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?» — з такім пытаньнем зьвярнулася да жыхароў Беларусі ініцыятыўная група рэферэндуму. Пачаўся збор подпісаў «за», якіх неабходна 350 тысяч.

У кампанію па збору подпісаў уключыліся тысячы людзей. І ўжо можна меркаваць, што гэтыя 350 тысяч будуць, людзі лічаць, што цяперашні Вярхоўны Савет, які выбіраўся, як вярхоўная ўлада Беларускай савецкай сацыялістычнай рэспублікі, ня здольны вырашаць тыя задачы, якія паўсталі перад незалежнаю Рэспублікай Беларусь для выхаду з крызісу. Хоць ёсьць зьвесткі, што ў невялікіх гарадзкіх паселішчах і ў сельскай мясцовасьці людзі ўсё яшчэ знаходзяцца ў палоне страху, у якім яны жылі на працягу дзесяцігодзьдзяў, і таму баяцца ставіць свае подпісы, хоць і згаджаюцца, што трэба новая вярхоўная ўлада.

А тым часам на старонках афіцыйнага друку тыя ці іншыя асобы ня могуць зьмірыцца, што будзе рэферэндум. Вось і ў «Звяздзе» Уладзімір Іскрык патэтычна ўклікае: «Хочацца замяніць лозунг «Жыве Беларусь» на словы роспачы і надзеі — «Божа, ратуй Беларусь!». Ну дык і крычыце, таварыш Іскрык, колькі вам хочацца. Вашы словы (і думкі таксама) нас не зьдзіўляюць.

# Госьці зь беларускага замежжа

З 25 лютага па 10 сакавіка ў Беларусі знаходзіўся па запрашэньні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны найпачэсьнейшы Мікалай, мітрапаліт Беларускай Аўтакафальнай Праваслаўнай Царквы з сядзібаю ў Таронта (Канада), старшыня Фонду БАПЦ дапамогі ахвярам чарнобыльскае катастрофы. Яго суправаджалі старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады, дырэктар Канадзкага дабрачыннага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля спадар Мікола Ганько і сябра Рады БАПЦ, сябра Рады Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня спадар Васіль Русак.

Госьці з беларускага замежжа пабывалі ў Магілёве, Слаўгарадзе, Заслаўі, Полацку, наведалі Жыровіцкі манастыр, мемарыяльны комплекс «Хатынь» і іншыя мясьціны Беларусі. Найпачэсьнейшы Мікалай меў сустрэчу з патрыяршым экзархам Беларусі мітрапалітам Філарэтам. У час сустрэчы гасьцей са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі спадаром Шушкевічам вялася размова пра становішча вернікаў на Беларусі і праблемы беларусізацыі царквы.

Найпачэсьнейшы Мікалай адправіў паніхіду па палеглых у Курапатах, памаліўся за загубленых у Хатыні, адслужыў набажэнствы ў царкве Усіх Беларускіх Сьвятых, у Петрапаўлаўскай царкве Менску.

Ніжэй публікуем казаньні мітрапаліта Мікалая на набажэнстве ў царкве Усіх Беларускіх Сьвятых і на паніхідзе ў Курапатах.

# РОДНАЯ МОВА Ў ЦАРКВЕ

**(Казань на набажэнстве ў царкве Усіх Беларускіх Сьвятых)**

Дарагія Браты й Сёстры!

Аднойчы мне здарылася прачытаць артыкул у беластоцкай газэце «Ніва» — між іншага напісаны беластоцкім сьвятаром, ягонага прозьвішча не памятаю. Аўтар артыкулу намагаўся даказаць, што беларуская мова ёсьць мужыцкая, таму яна не надаецца для багаслужбаў. Сьвятар гэты ня толькі казаў няпраўду, але й ён моцна грашыў супраць Сьвятога Духа, ён абвяшчаў герэзію. Бо як ён можа тлумачыць Сьв. Пісьмо, дзе сказана: «І напоўніліся ўсе (апосталы) Духам Сьвятым і пачалі гаварыць іншымі мовамі, як той Дух даваў ім прамаўляць» (Дзеі 2:4). Далей напісана, што ўсе дзіваваліся і казалі адзін аднаму: «Ці ж ня ўсе, што гавораць, Галілеяне? Як жа гэта мы чуем ад іх кожны сваю мову? Мы ж родам Парфіі, Мідзіі, Эляму, Мэсапатаміі, Юдэі, Кападокіі, Понту, Фрыгіі, Памфіліі, Ягіпту, Лівіі, Кірэны, Рыму, Крыту й Арабіі,— але ўсе мы чуем, як яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія цуды Божыя» (Дзеі 2:7—11). Гэта паказвае, што кожны чуў слова Божае на сваёй роднай мове.

Заглянем цяпер у сваю беларускую гісторыю. Быў час, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім вялікія князі і іхняе акружэньне гутарылі па-беларуску, дакумэнтацыя, судовыя акты, урадавае справаводзтва — усё вялося толькі пабеларуску. Беларуская мова была мовай дыпляматыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Беларуская мова гучэла нават у польскім каралеўскім замку ў Кракаве.

Акт міру пасьля Грунвальдзкае бітвы з крыжакамі ў 1410 годзе быў складзены й падпісаны пабеларуску, на той мужыцкай мове, і палацінску. Наш славуты Францішк Скарына пераклаў і выдаў пабеларуску, тэй жа мужыцкай моваю, Сьвятое Пісьмо ў 1517—1519 гадох, на 50 гадоў раней за зьяўленьне польскай кнігі.

Болей за сорак гадоў пасьля выхаду Сьвятой Дабравесьці, выдадзенай Францішкам Скарынам, ажно ў 1564 г. былі выдадзены Апостал і Часаслоў у Маскве.

Статут Вялікага Княства Літоўскага выдадзены пабеларуску.

Гаворачы пра беларускую мову і Сьвятое Пісьмо, трэба прыгадаць, што ў часы перасяленьня народаў дрыгавіцкае племя падзялілася і адна частка пасялілася на Палесьсі, а другая павандравала на Балканы. Наш выдатны гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі ў кніжцы 1919 году «Асновы Беларускай Дзяржаўнасьці», пісаў: «Частка племені Дрыгвічоў, у часох перасяленьня народаў (гэта значыць, не пазьней як канец чацьвертага стагодзя) прабілася на Балканскі паўвостраў і пасяліліся навокал Салонікаў (Салунь). Грэкі называлі іх Другувітамі. І гэтую мову Другувітаў навучыліся сьв. Кірыла і Мятод». А мо яны й самі былі з роду дрыгавічоў македонскіх. Вось жа, як бачым, і ў першым перакладзе Сьвятога Пісьма, зробленым сьв. Кірылам і Мятодам, асноўной мовай была мова македонскіх дрыгавічоў, суродзічаў нашых палескіх дрыгавічоў.

Нашая беларуская мова — мова сьвятая і ёй належыцца сьвятое месца ў сьв. Праваслаўнай Царкве.

Сьв. апостал Павал, працаўнік Хрыстовай Царквы, у сваім першым пасланьні да Карыньцянаў (I Кар. 14:4—19), вучыць, што родная мова неабходная Сьв. Царкве: «Хто гаворыць чужой моваю, збудоўвае сябе; а хто прарочыць, той царкву будуе. Хачу, каб вы ўсе гаварылі мовамі, але лепей, каб вы прарочылі, бо хто прарочыць, той дасканальшы за таго, хто гаворыць мовамі, хіба ён пры тым будзе і тлумачыць, каб царква ўзяла збудаваньне...

«Бо калі я малюся чужой мовай, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным...

«Бо калі ты дабраславіш духам, дык як той, хто стаіць на месцы няўчонага, скажа амін на тваё дзякаваньне? Бо ён не разумее, што ты гаворыш...

«Але ў царкве хачу лепей сказаць пяць слоў маім розумам, каб другіх навучыць, чым мірыяды слоў чужой мовай...»

Расейскі гісторык царквы Аўген Галубінскі, прафэсар Маскоўскай духоўнай акадэміі і акадэмік, піша: «Багаслужэньне на чужой мове, гэта ж ёсьць тое, што я, бывала, пайшоў у сьвятыню памаліцца Богу, а там служаць не панашаму; я гэтак і прастояў усю багаслужбу стаўпом, не разумеючы ані воднага слова й ня ведаючы, калі перахрысьціць свой лоб».

Той жа Галубінскі пісаў: «Права маліцца на сваёй роднай мове настолькі належыцца кожнаму народу, наколькі дадзенае права гаварыць яму... Кожны народ павінен маліцца Богу на сваёй уласнай, зразумелай для яго мове; нічога ня можа быць больш бясспрэчнае гэтага, і так гэта і было ў Хрысьціянскай Царкве ў першыя стагодзьдзі».

Архіпастыр расейскае царквы, япіскап Тэафан пісаў у сваіх лістах (1882): «Усе нашыя багаслужбовыя сьпевы павучальныя, высоказразумелыя й цудоўныя. У іх уся багаслоўская навука, уся хрысьціянская мараль, і ўся пацеха... Хто ўважлівы да іх, той зможа абыйсьціся бяз ніякіх іншых навучальных кнігаў. А між тым вялікая частка тых сьпеваў зусім незразумелая, і гэта пазбаўляе нашы царкоўныя кнігі таго плоду, які яны маглі б даць, і гэта не дае ім тае мажлівасьці для тых мэтаў, для якіх яны прызначаны. І дзеля гэтага новы пераклад царкоўных багаслужбовых кніг абавязкова неабходны,— неабходны прасьцейшы іхны пераклад».

Дарагія браты й сёстры, наша беларуская мова, сьвятая мова, каб была яна зразумелай кожнаму з нас, яна павінна заняць належнае ёй сьвятое месца ў сьвятой Беларускай Праваслаўнай Царкве. Амін.

# Судовая справа рэдактара «Крыніцы»

**Пазалетась Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ў Ню Ёрку выдадзена кніжка Юркі Туронка «Памяці Браніслава Туронка». Яе аўтар — вядомы дасьледчык беларускае гісторыі, культуры і асьветы. Жыве ў Варшаве. У кніжцы ён расказвае пра свайго бацьку — хрысьціянска-дэмакратычнага дзеяча Заходняй Беларусі ў 1920—1930-х гадах. Ніжэй зьмяшчаем адзін з разьдзелаў кніжкі.**



У сьнежні 1923 г. Б. Туронак стаў адказным рэдактарам «Крыніцы», якім да гэтага часу быў У. Знамяроўскі. Першы нумар «Крыніцы», які быў падпісаны да друку рэдактарам-выдаўцом Б. Туронкам (№ 15), выйшаў 10 сьнежня 1923 году, а апошні № 35 — 22 жніўня 1925 г. Такім чынам у гэтай рэдакцыі працаваў ён 1 год і 8 месяцаў.

«Крыніца» прызначалася ў асноўным для беларусаў-каталікаў. Лічылася яна органам беларускай хадэцыі, аднак рэдакцыя не падкрэсьлівала партыйнасьці сваёй газэты. Замест гэтага ў падзагалоўку падавалася: «Тыднёвая сялянская газэта». Выдавалася з 1917 г. пачаткова ў Петраградзе і ў Менску, а з 1919 г. — у Вільні. Друкавалася лацінкай. Рэдакцыя зьмяшчалася пры вуліцы Завальнай, 7. Шырэй гісторыю «Крыніцы» прадставіў А. Станкевіч («Беларускі Хрысьціянскі Рух», Вільня, 1939, с. 211—219).

«Крыніца», падобна як усе віленскія беларускія газэты, была мерапрыемствам дэфіцытным і патрабавала грашовае дапамогі. Субсыдыявалася яна часткова беларускімі ксяндзамі, якія працавалі ў Заходняй Беларусі, і часткова — эміграцыйным урадам Ластоўскага ў Коўні (гл. «Круткі зарыс загадненьня бялорускего, с. 167).

Як казала цётка Антаніна, да працы ў «Крыніцы» заангажаваў Браніслава ксёндз Адам Станкевіч. Мама лічыла, што быў ён толькі фармальным «зіцрэдактарам» (рэдактарам для адседкі), які адказваў перад уладамі за зьмест тыднёвіка. Магчыма, за гэтае рэдактарства атрымоўваў Браніслаў крыху грошай, якімі латаў свой студэнцкі бюджэт. Аднак акрамя «зіцрэдактарства» займаўся Б. Туронак і публіцыстыкай, зьмяшчаючы ў «Крыніцы» свае матэрыялы пад псэўданімам «Тамашні».

Аб умовах працы Туронка, як рэдактара «Крыніцы» красамоўна сьведчыць наступны факт: зь ліку 20 нумароў, падпісаных ім да друку, польскія ўлады канфіскавалі 9, зь якіх у 1924 г.— 4 і ў 1925 г.— 5 (гл. «Беларускі Хрысьціянскі Рух», с. 216). У 1924 г. быў ён упершыню прыцягнуты да судовай адказнасьці за рэдагаваную газэту. Гэтым разам справа закончылася толькі грашовым штрафам.

У 1925 г. значна павялічыліся канфлікты паміж «Крыніцай» і ўладамі, якія мелі сур'ёзнае значэньне як для самой газэты, так і для яе рэдактара. Адбываліся яны на фоне змаганьня за беларускую мову ў касьцельных набажэнствах у Жодзішках. Гэнэзіс гэтае справы прадставіў А. Станкевіч у сваёй кніжцы «Родная мова ў сьвятынях» (Вільня, 1929, с. 153—162), які перадаецца тут у вялікім скарачэньні.

У 1921 г. пробашчам парафіі ў Жодзішках быў назначаны кс. Вінцук Гадлеўскі. Пазнаўшы сваю парафію, якая ў велізарнай большасьці была беларуская, 7 верасьня 1924 г. пачаў ён гаварыць казаньні на беларускай мове. Паводле А. Станкевіча, «сярод народу з казаньняў у роднай мове было задаволеньне неапіснае. Касьцёл заўсёды быў біткам набіты. Былі толькі не задаволены кругі дворскія і ўрадавыя. У выніку гэтага палітычнага нездаволеньня Дэлегат польскага ўраду ў Вільні зьвярнуўся да біскупа Матулевіча, каб спыніць шкодную, як казаў, для Польшчы дзейнасьць кс. В. Гадлеўскага.

Пачалася перапіска паміж кс. Гадлеўскім і бп. Матулевічам, у выніку якой біскуп паслаў у Жодзішкі камісію, якая павінна была на месцы дасьледаваць справу. У склад камісіі ўваходзілі тры ксяндзвы-палякі. Не была яна аб'ектыўнай. Адначасова польская паліцыя пачала адпаведную «апрацоўку» ксяндза Гадлеўскага. На працягу 1925 г. быў ён арыштоўваны двойчы: у чэрвені і ў верасьні, а ў сакавіку 1926 г. быў ён прыгавораны да двухгадовага турэмнага зьняволеньня.

У красавіку 1925 г. названая камісія прыбыла ў Жодзішкі для правядзеньня плебісцыту. Гэтую падзею апісаў Б. Туронак ў артыкуле «Праўда аб Жодзішках» («Тамашні»), як наступае:

**Крыніца**, IX год, № 22, 24.5.1925 г., 2—4 стар. (Артыкул друкаваўся лацінкаю. У гэтым тэксьце захоўваюцца ўсе асаблівасьці мовы, арфаграфіі і пунктуацыі арыгіналу).

### ПРАЎДА АБ ЖОДЗІШКАХ

Як чуваць, нашае жодзіснае галасаваньне, адбытае 25.IV. нарабіла многа шуму. Аб ім гаворыцца ня толькі ў Польшчы, але і за граніцай. Усе інтэрэсуюцца прабуджваючымся да новага жыцьця беларускім народам і прыглядаюцца зь вялікай увагай да ўсіх рухаў, якія сьведчаць аб новым жыцьці нашага народу.

Але ўсе весткі, якія мне давялося чытаць у газэтах, вельмі былі раптоўны, не спраўджаны — і дзеля гэтага мне прыходзіцца ўзяць за пяро, каб высьвятліць праўду і паказаць на факты, каторыя могуць памагчы ў досьледах гэтай праўды.

Вось жа, як толькі былі ўведзены ў Жодзішны касьцёл беларускія навукі, адразу яны здабылі сабе вялікую папулярнасьць. Людзі ня толькі з сваёй парафіі, але і чужых (часам нават вельмі далёкіх) прыходзілі, каб паслухаць навуку ў роднай мове, або пачуць беларускую рэлігійную песьню.

Навука ў роднай мове і песьні рабілі на нікаторых вялікае ўражаньне — і яны вярнуўшыся да хаты расказвалі аб усім, што відзелі і чулі. Пры гэтым казалі: «мы думалі, што з нашай мовай сапраўды нікуды ня можна паказацца, а тым часам як запяюць песьню ў роднай мове, то так бярэ за сэрца, што аж плакаць хочацца». І сапраўды, нікаторыя плакалі, асабліва пачуўшы песьню «Матачка Божая», або «О мой Божа, веру Табе». Гэтае ўсё рабіла вялікі розгалас па ўсёй аколіцы — усе сьпяшылі ў Жодзішкі, каб самым пераканацца аб праўдзівасьці казанага і чутага. Дык народу-ж, народу набралася ў касьцёл — проста як на фэст, або якую вялікую ўрачыстасьць!

З другога боку польскай навукі ніхто не хацеў слухаць: ні беларусы, бо яна ім абрыдла, ні «палякі», бо яны разумеючы па беларуску (а праўду кажучы і самі беларусы, толькі прыкідаюцца палякамі) ужо не хацелі слухаць навукі польскае. Затым і аставалася на навуцы польскай асоб ня больш як 20—30. А праўдзівыя палякі, як паны, паліцыя і вучыцялі з рэлігіяй ніколі ня мелі дачыненьня, то іх ня было ні на беларускай, ні на польскай навуцы.

Гэтак не магло доўга цягнуцца, бо трудна-ж было гаварыць да пустых сьцен (на першы дзень Вялікадня гэтага году асталася на польскую навуку толькі адна кабета), дык была вызначана Віленскім Біскупам адумысловая камісія, каторай было даручана дасьледзіць на месцы і аб усім данясьці Біскупу. (Рабіць галасаваньне ці плебісцыт ей даручана не было). Камісія была моцна аднастаронная, бо складалася з адных палякоў і нават замаскаваных эндэкаў, як напр. Сьвірскі дзекан, або пробашч з Данюшава. Але і гэтая камісія перад многімі дзівілася, што справа **беларуская**, а ў камісіі няма ніводнага беларуса, што саўсім пярэчыць галоўным падставам такту і справядлівасьці. Ды нічога не парадзіш — калі на гэтую аднастароннасьць была зьвернута ўвага Віленскага Біскупа, то прадстаўнікі беларусаў атрымалі адказ, што ўжо перарабіць ня можна...

*(Заканчэньне ў наступным нумары).*

# Акупанты ведалі, што лепш

Пяцьдзесят гадоў назад, напрадвесьні 1942 году, нямецкія акупацыйныя ўлады ў Беларусі зьліквідавалі калгасы, зямля і цяглавая сіла былі перададзены сялянам. Безумоўна, улады Гэнэралькамісарыяту Беларусь клапаціліся ў першую чаргу не пра сялянаў. Яны небеспадстаўна меркавалі, што сялянскія гаспадаркі забясьпечаць большую выдайнасьць прадукцыі (мяса, малака, збожжа, бульбы, тэхнічных культур, воўны і інш.), чым калгасы. А гэта азначала, што і абавязковыя пастаўкі з сялянскіх двароў у выглядзе натуральных падаткаў можна будзе спаганяць у значна большых памерах. Ці ня той мізэрны плён з калгасных палеткаў, які яны загрэблі ўвосень 1941 году, падказаў ім гэта.

А ўраджаі былі сапраўды неблагія ў сялянскіх гаспадарках. Але пасьля выгнаньня нямецкіх акупантаў у 1944 годзе калгасы былі адноўлены, увесь ураджай забраны дзяржаваю. Вельмі цяжкая і галодная для хлебаробаў была зіма і вясна 1945 года. Людзі, каб неяк пракарміцца, вясною шукалі на загонах зазімавалую там і перамерзлую бульбу, клубні якой дзе-нідзе трапляліся.

**А. ЛУГАВЫ.**

# Казань на паніхідзе па палеглых у Курапатах

«Верце ў Бацькаўшчыну сваю, Сьвятую Беларусь». Канцовы,

Дарагія Браты й Сёстры!

Мець веру — гэта вялікі скарб, гэта дар Божы, які дае нам здольнасьць і сілу пераадолець вялікія перашкоды. І не здарма Госпад наш кажа: «Калі вы будзеце мець веру з гарчычнае зерне і скажаце гарэ гэтай: «Перайдзі адгэтуль туды», і яна пярэйдзе; і нічога ня будзе немагчымага вам» (Мц. 17—20). Той, хто ня мае веры, ня вытрымлівы, і як прыходзіць цяжкі час заломліваецца і гіне. Паказальны прыклад гэтаму ў Сьв. Дабравесьці: калі Пётра «Выйшаўшы з лодкі,.. падыйшоў да Ісуса; але, бачачы вялікі вецер, спалохаўся і, пачаўшы тапіцца, закрычэў, кажучы: «Госпадзе, ратуй мяне!». Пётра спалохаўся, бо ня меў дастатковую веру.

Усялякае змаганьне вымагае вялікае ахвяры ад змагароў. Асабліва змаганьне за вольнасьць і незалежнасьць народу, свае краіны, Бацькаўшчыны, вымагаецца нават людзкое жыцьцё. Колькі нашых братоў і сёстраў перанесьлі турэмных зьдзекаў, жорсткіх пакутаў на паўночных тундрах, згнілі ў турмах, зьмерзьлі сібірскім марозам, застрэляных, што ляжаць у курапацкіх магілах.

Усе яны былі сьвядомыя таго, што за сваю дзейнасьць у адстойваньні правоў свайго народу яны будуць, калі пападуцца ў рукі панявольнікаў, пакараныя за свае ўчынкі чужынцамі-захопнікамі. І гэта іх не палохала. Бо моцная вера ў справядлівасьць у кожным чалавеку перадольвае страх.

Калі народзіцца дабародная ідэя, вера ў справядлівасьць, вера ў свой народ, тады ні страх, ані сьмерць ня спыняць ягонае імкненьне да мэты, ніякая сіла ня ўстрымае чалавека ў яго асягненьнях. І Максім Багдановіч гэта выказаў у сваім вершы «Пагоня»: «Старадаўнай Крывіцкай Пагоні не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць».

Нязважаючы на ўсе цяжкія жыцьцёвыя абставіны — прасьлед, турмы, зьдзекі пануючых, змагары за вольнасьць Беларусі поўнасьцю пасьвяцілі сябе, сваё жыцьцё свайму народу. Нашыя народныя пакутнікі памерлі на крыжавой дарозе, каб жыла Бацькаўшчына. Даволі прачытаць кніжкі «На Крыжовай дарозе» і «Айцы БССР і іхны лёс» Аўгена Калубовіча, каб уявіць сабе тую пакуту, той крыж, які яны несьлі праз усё сваё жыцьцё. Але нам ведамы толькі зьнікомы лік імёнаў. А колькі ж тых імёнаў, ня ўпісаных у летапіс нашага адраджэньня, нашага нацыянальнага ўваскрасеньня. Курапаты, а колькі такіх магілаў на ўсёй нашай зямельцы беларускай, сталіся сымбалям магілы ўсіх нашых пакутнікаў, змагароў, што леглі ў яе за суверэнную, незалежную нашую сьвятую Беларусь.

Хрыстос памёр на крыжы, каб потым уваскрэснуць. Нашыя народныя змагары аддалі сваё жыцьцё на полі бою, у турмах, на ссылках, у Курапатах, усе яны памерлі на крыжовай дарозе, каб жыла Бацькаўшчына, нашая сьвятая Беларусь. У Сьвятой Дабравесьці паводле Яна сказана, што калі зярно, пасеенае ў зямлю, не памрэ, яно там так і згніе, а калі зярно, пасеенае ў зямлю, памірае, яно родзіць шмат большы плод (Ян 12:24).

Вось гэтае ўкрыжаваньне, пралітая сьвятая кроў нашых братоў і сёстраў і ўсіх нам родных, ня былі дарэмнымі, яны цяпер даюць свой вялікі плён. Мы навочнымі сьведкамі адраджэньня нашага народу. Мы бачым, як адраджаюцца нашыя народныя вартасьці, мова і гісторыя, культура. Наш бел-чырвона-белы сьцяг лунае ў Аб'яднаных Нацыяў.

Дарагія мае браты й сёстры, родныя беларусы! Не шкадуйце працы ўва ўсіх галінах і працуйце чэсна, не шкадуйце сродкаў на адраджэньне свайго народу. Шануйце й любіце сваю сьвятую родную мову, каб яна настала зазьзяла ў Праваслаўнай Царкве, ня толькі ў казанях, але ўсяцэла ў нашых багаслужбах, каб беларусы маліліся сваёй роднай сьвятой мовай. Шануйце й любіце культуру, вывучайце гісторыю свайго народу, а па-над усё верце ў Бацькаўшчыну сваю, у сьвятую Беларусь. Амін.



*З цыклу «Чорны сьлед чалавека».*

Фота М. Лінкевіча.

# НА ПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА

Пратэстантызм на Беларусі — справа не сягоньняшняга дня. Да рэфарматарскай царквы належалі княскія роды нашых продкаў, якія б сталі гонарам любой нацыі. Да рэфармацыі належалі і выдатныя вучоныя і дзяржаўныя дзеячы нашай гісторыі. Рэфармацыя была зьнішчана на Беларусі коштам вялікай крыві нашага народу, якая была праліта з-за жорсткасьці нашых усходніх братоў, што ратавалі «беднае» маскоўскае праваслаўе ад «ерэтыкаў» рэфарматараў ды «латыністаў». Імкнуліся не адставаць у гэтым ад Масквы на заходніх і цэнтральных землях Беларусі і нашыя заходнія браты.

Для шчырых пасьлядоўнікаў Хрыста гэта не зьявілася нейкай зьнянацкасьцю. Каб вучні не засумняваліся ды не спакусіліся думкаю, што Бог пакінуў іх, Хрыстос папярэджваў іх загадзя: «...ідзе гадзіна, калі кожны, хто заб'е вас, будзе думаць, што гэтым служыць Богу» (Яна 16:2). З тэксту зразумела, што Хрыстос гаворыць не пра забойцаў-атэістаў, а пра тых, якія думаюць, што «гэтым служаць Богу». Каб не было незразумеласьці, што гэта за «слугі Боскія», варта нагадаць словы Апостала Паўлы, зь якімі ён зьвярнуўся да япіскапаў Эфэса: «Пільнуйце ж самі сябе й ўсё стада, у якім Дух Сьвяты паставіў вас за япіскапаў, каб пасьвіць царкву Бога, якую Ён прыдбаў уласнаю крывёй Сваёй. Я ж ведаю гэта, што пасьля адыходу майго прыйдуць да вас ваўкі, якія не пашкадуюць стада, дый пасярод вас самых паўстануць людзі, што гаварыцімуць наадварот, каб пацягнуць вучняў за сабою» (Дзеяньні 20:28—30).

Такім чынам, каб «пацягнуць вучняў **за сабою**», трэба прыдумаць нешта **сваё** — **сваю** навуку, **свае** рытуалы, **сваю** праўду, а ўрэшце і **свайго** бога. Супраць гэтага **«свайго»** аднадушна паўставалі ўсе Апосталы, угаворвалі вучняў трымацца чыстага вучэньня Хрыста і Апосталаў, але дух адступніцтва ад Слова Боскага авалодваў вучнямі ўжо ў апостальскі час. Таму Апостал Павел, адыходзячы ў сваю дарогу, ня проста пакідае эфэскіх япіскапаў, але і кажа ім: «І цяпер я аддаю вас, браты, Богу й слову міласьці Ягонае, што можа збудаваць і даць вам спадчыну міжы ўсімі пасьвячонымі» (Дзеяньні 20:32).

Менавіта чытаньнем Слова Боскага і славаслоўем Богу на беларускай мове займаюцца вернікі Беларускай Эвангельскай Царквы ў Менску ў зале бібліятэкі імя Пушкіна кожнага аўторка а 18 гадзіне 30 хвілін. Так, так. У зале бібліятэкі. Мы ня маем свайго храма, ды ня вельмі гэтым засмучаемся, бо «лісы маюць норы і птушкі нябесныя гнёзды, а Сын Чалавечы ня мае дзе скланіць галаву» (Мацьвея 8:20).

Вакол Царквы складаецца Беларускае Пратэстанцка-Рэфарматарскае брацтва з вернікаў усіх пратэстанцкіх кірункаў.

А ў кожны першы аўторак штомесяца таксама абываецца еднасная малітва ўсіх беларускіх хрысьціян за наш шматпакутны беларускі народ і за мір паміж усімі беларускімі хрысьціянамі.

Зь любоўю чакаем! Наш кантактны тэлефон: 70-89-87.

Эрнст САБІЛА,
сьвятар.

РОЗДУМ НАД РАДКАМІ

# А ШТО ЎЖО КАЗАЦЬ ПРА НАС?

«...захопнікі, імкнучыся апраўдаць разборы, ужо ў XVIII стагодзьдзі намагаліся пераканаць эўрапейскую грамадзскую думку, што палякі няздольныя (і ня вартыя) мець уласную дзяржаву. Адсюль адпаведная прапаганда, вынікі якое гнятуць нас і сёньня (...) Звычайны вобраз паляка за мяжою, асабліва ў Заходняй Эўропе, гэта вобраз, які быў сфармаваны за два стагодзьдзі захопніцкай прапагандай, у т. л. камуністычнай (пры нашай уласнай падтрымцы). У выніку цяперашнія палітычныя спрэчкі ў Польшчы, якія былі б прызнаныя нармальнай справай у кожнай іншай краіне, успрымаюцца як праява дэстабілізацыі польскае дзяржавы». (Часопіс «Польшча сёньня»).

**А што ўжо казаць пра нас, пра нашую мінуўшчыну і сучаснасьць? Захопніцкая прапаганда ў нас зрабіла (і робіць) яшчэ большую спусташальнасьць.**

Натальля АРСЕНЬНЕВА

## Маладым паэтам

Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог,
Як старцы, вы па шчасьце ня цягнеце жмені,
вершы вашыя пугамі б'юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленьні.

Я-б хацела гарэць і змагацца, як вы,
разам з вамі каваць так чаканае раньне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыганяць.

Мае дні
над аржоньнем цьвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыньнем,
і зьвіняць алавяным асеньнім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Нібы жоўтая восень,
стаю над жыцьцём
і гляджу на яго,
хоць навокал — змаганьне,
Мае вершы —
над сонным балотам трысьцё,
ймгла сівая асеньняга раньня...

1937

## Песьня каліноўцаў

Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы,
як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня дзіва,
што канае народ твой і ты, Беларусь!
Але годзе!
Мы ўстанем!
Ціхім раньнем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе
возьмем волю сабе і табе, Беларусь!
Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята,
на змаганьне за сьвята для мазолістых рук,
за зямлю для аратых,
і за сонца у хатах,
за увесь твой народ, за цябе, Беларусь!
Дык ударма, як гром, дык лінем навальніцай,
дык праб'емся ж крыніцай
спад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-каласіцца
наш загон, і бязьмежжы твае — Беларусь!

Гэй, сьмялей,
гэй, далей,
не лякаймася сьмерці!
Нашы целы і славу сыны падбяруць.
Хоць і зложым на пожнях гарачыя сэрцы,
але ты будзеш жыць і расьці, Беларусь!

1942

Уладзімір ПУЧЫНСКІ-ПІРОГ

* * *

У арфу ваконнае рамы
нацягнута тонкае шкло.
На струнах халоднае шыбы
нейчага інструменту
клавішы-кроплі
вясновую музыку граюць.
Кропелькі ці то ноткі сьцякаюць...
У музыку ноты зьліюцца —
слухаць бы давеку,
як з блаславёнай вышыні
ўніз мэлодыя сьцякае.
Гром уступіць у сымфонію,
дырыжорскай
палачкай
ўзмах
не
ма
лан
ка.
На арфе ваконнага шкла,
на струнах халоднага шкла
Вясна
сваю
музыку
грае,
бо
хоча,
каб нехта
чуў
словы
ад Бога.

1989

## Абвестка



Беларуская крыніца
Палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта.
Выдаўца Пятро СІЛКА.
Галоўны рэдактар Алесь ТРАЯНОЎСКІ.

Адрас для карэспандэнцыі: 220065. г. Менск-65, абан. скрынка 24.

Аўтары адказваюць за дакладнасьць фактаў, цытат, лічбаў, дат, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, што паведамляецца ў матэрыялах. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пункту гледжаньня аўтара. Дасланыя матэрыялы не рэцэнзуюцца і не высылаюцца назад аўтарам.

*Паліграфічная фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Якуба Коласа,* ...к.

Наклад 4 тысячы паасобнікаў.

Зак. № 2451